# НАВІНКІ

15 - 24 сакавіка 2000 №5(27) Кошт свабодны

## Сучасны Гамлет:
# Біць ці ня біць?
## Вось дзе пытаньне...






# Зрабіць выбар...

Позна ці рана Беларусь дакавыляе да адносна дэмакратычных выбараў. Будзе дадзены старт крутым разборкам за новыя дэпутацкія мандаты, у якіх прымуць удзел антыполюсныя палітычныя групоўкі. Відавочна, што будучая перадвыбарчая кампанія будзе разьвівацца адпаведна схеме, якая зараз мае месца у Расеі. Альфа і амега сучасных палітычных кампаніяў – кампрамат! Таму нашым палітычным гіенам трэба рабіць высновы й рыхтавацца да будучых брутальных «пі-арных» мачылавак. Уявіце сабе, што ў фінальны тур прэзыдэнцкіх выбараў 2002 прабіліся два кандыдаты – дэмакрат А і славянафіл Б. Вось адзін зь дзейсных інструмэнтаў «піару»: прэтэндэнт Б вырашае нанесьці забаронены ўдар. Вынік: на сьвет зьяўляецца кампрамат (ну, напрыклад, што дэмакрат А не жыве з жонкай і ўвогуле не зразумела, з кім ён сьпіць). Мэта кампрамату – выклікаць адваротную рэакцыю да кандыдата А. Цяпер падзеі могуць разьвівацца наступным чынам.

А) Кандыдат ад дэмакратычнага блёку А прымае ўдар і пачынае рабіць галімыя адмазкі (кшталту Лужкоў перад Дарэнкам): паціпу гэта ня Вашая справа, з кім я сплю, у нас вольная краіна! Такім чынам ускосна прызнаецца абгрунтаванасьць абвінавачаньняў і даецца зялёнае сьвятло чарговым кампраматам. Яны могуць быць ужо куды сур'ёзьней: напрыклад тое, што А ўвогуле гом.

Б) Кандыдат А робіць выгляд, што нічога не адбылося, не заўважае ніякага «чорнага пі-ару» і такім чынам быццам бы й пагаджаецца з абвінавачаньнямі, а зь іншага боку лічыць іх цалкам беспадстаўнымі. Тады нават бабкі каля пад'езду ня здолеюць патрэбным чынам штурхнуць сваю дэзу ў выглядзе чутак.

В) І нарэшце, адзіны на наш погляд магчымы й правільны адказ: кандыдат А парыруе прапагандысцкі гон так, што электарат будзе сьмяяцца над ягонымі апанэнтамі да ўпаду. Нападаючы бок трэба зачмырыць у жанры гумару, вострага прыколу ці сатыры. Трэба папулярна давесьці: супернік вельмі прымітыўны і несур'ёзны, каб наяжджаць на нашага дэмакратычнага прадстаўніка. Пасьля гэтага наносіцца адказны кампрамат, ініцыятыва перахопленая і рэйтынг суперніка падае, як член імпатэнта.

Рэзюмэ: адсюль відавочна, як важна кожнаму рэспэктабэльнаму палітыку мець у рэзэрве пару-тройку прафэсійных юмарыстаў кшталту рэдакцыі газэты *Навінкі*. Яны, іншымі словамі, мы, павінны быць самай высокааплочванай катэгорыяй у палітыкаў.

**Ці ператворыцца «Марш Свабоды» ў «Марш Гвалту»?**

стар.2-3

**COOL-HORROR**

*Крывавы фота-комікс пра нефармалаў.*

Стар.6-7

*каравай, каравай, кого хочешь выбирай!*



«Пі-араўскія» сыстэмы на выбарах'2000

Стар. 4-5




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 14.03.2000 г., а 01.00. Тыраж 10100 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная Зорка» ВПП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №1617

# Народныя гульні

Днямі, разьбіраючы свае старыя часопісы, я выпадкова натрапіў на стары патрапаны *Календарь Школьника* за 1985. Маю ўвагу прыцягнула рубрыка, што апісвала нацыянальныя гульні дзяцей СССР. Вось тут і аказалася, што пакуль равесьнікі з брацкіх рэспублік гуляліся ў лапту альбо шкандыбкі, разьвіваючы сваю спрытнасьць, хуткасьць і кемлівасьць, беларускія дзеткі рэзаліся ў калдырныя сілавыя гульні, якія нічога акрамя агрэсіі ў маладняку не выклікалі. Мяркуйце самі:
«Поцяг (беларуская народная гульня).
У гульні ўдзельнічаюць дзьве каманды, роўныя па колькасьці й сіле гульцоў. Перад пачаткам гульні на пляцоўцы праводзяць рысу – гэта мяжа. Счапіўшыся адзін з адным сагнутымі ў локцях, каманды ўтвараюць ланцужкі. На чале кожнага ланцужку становіцца найбольш моцны ў камандзе – «завадзіла».
Падвёўшы свае каманды да мяжы, «завадзілы» бяруць адзін аднаго пад рукі, і кожная каманда намагаецца перацягнуць праціўніка на свой бок мяжы. Перамагае тая каманда, якая здолее перацягнуць праз рысу мяжы ня менш за тры гульца з каманды праціўніка». (Гл. малюнак)
А потым зьдзіўляемся, адкуль бяруцца адмарозкі.

**Аляксандар Вясноўскі**



## Альбом патрыятычных песень выйшаў акурат перад чарговым «маршам гвалту»

# «Ступенечкі»



Байцы АМАПу з гурта LOVE TO STATE выконваюць свой супэрхіт «Куля ў адмарозка – твой уклад у правапарадак»

Узброеныя сілы заўсёды славіліся сваімі паэтамі-песеньнікамі. Усім вядома, якой папулярнасьцю карыстаюцца ў нашай краіне аўтарскія песьні афганскіх воінаў-інтэрнацыяналістаў. Падзеі чачэнскай вайны таксама атрымалі адлюстраваньне ў творчасьці байцоў-кантрактнікаў.
Нядаўна ў менскія музычныя крамы паступіў новы CD «Ступенечкі», зьяўленьне якога выходзіць далёка за рамкі культурнай падзеі. Гэты рэліз, выпушчаны сумесна Саюзам інвалідаў вулічных боек і ТАА «Восень-99», абяцае стаць самай значнай грамадзка-палітычнай падзеяй 2000 году ў Беларусі.
Чым жа цікавы гэты дыск? – спытаецца чытач. На дыску запісаны 16 сьпеваў, аўтары і выканаўцы якіх – байцы АМАП і салдаты ўнутраных войскаў, якія падтрымлівалі правапарадак падчас правядзеньня непрымірымай апазыцыяй г. зв. «Маршу Свабоды».
Гітарысты з павыбіванымі камянямі вачыма і сьпевакі з адкушанымі шалёнымі адмарозкамі ступнямі ў сваіх песьнях зноў і зноў узгадваюць тыя жудасныя падзеі 17 кастрычніка.
Падкупае шчырасьць і непасрэднасьць самадзейных мэнэзынгераў. Гераічны дух, боль ад страты таварышаў, самаадданасьць справе аховы парадку – усё гэта знайшло сваё адлюстраваньне ў гэтым міліцэйскім эпасе.
На зборцы прысутнічаюць некалькі бясспрэчных мастацкіх шэдэўраў. Гэтак, абяцае стаць хітом песьня сяржанта АМАП В.Брукоўскага «Апошні адмарозак» з такімі радкамі:

*У шэраг мы сталі,*
*Сто грамаў на грудзь.*
*Калёна гукае:*
*«Жыве Бе-ла-русь!»*
*Ня дрогнуў Валодзька,*
*І каменны град*
*Накрыў яго, быццам*
*Чачэнскі снарад.*

Прысьпеў выкрывае брутальнасьць парушальніка правапарадку:

*Пад зялёнай хусткай*
*Нечы твар схаваны –*
*Гэта адмарозак*
*Натрэні-ра-ва-ны.*

Песьня «Разгон» радавога ЎВ М.Вантробскага, камісаванага пасьля цяжкай чэрапна-мазгавой траўмы, успрымаецца як горкая споведзь рыцара закону, які самаахдана выконвае свае службовыя абавязкі, ня гледзячы на тое, што ягоныя дзеяньні не заўсёды знаходзяць разуменьне ў сучасным грамадзтве:

*Вучыў камандзір,*
*Як трэба лахоў*
*Па праспэкту ганяць:*
*Лупіць дык лупіць,*
*Хапаць дык хапаць,*
*На суткі саджаць.*
*І вось я стаю,*
*А іх камяні*
*Ляцяць і ляцяць.*
*Дубінку бяру*
*І ёй я пачаў махаць.*

Гэта не адзіныя шэдэўры салдацка-міліцэйскай самадзейнасьці. Уражваюць сваім палымяным патрыятызмам песьні «Зачыстка», «Бягучы чалавек», «Акрэсьцінскі канвой», «Першая ластаўка» і іншыя.
Знамянальна, што альбом выйшаў напярэдадні «Маршу Свабоды-ІІ», што мусіць падвысіць баявы дух байцоў УВ і АМАП перад магчымымі правакацыямі апазыцыянэраў ●

**Іван Разэнбаўм**

## 8 СакавікА

### Пярэдадзень матрыярхату

Як заўсёды, крута адзначылі сваё сьвята, што зь сюсюканьнем завецца «жаночым», сапраўдныя жанчыны, якія ня сталі чакаць міласьціны ад каго-небудзь, а ўзялі яе самі.
Гэтак, у паўднёвым мэксыканскім штаце Чыяпас жанчыны з мужамі і дзецьмі з самых аддаленых гор па старажытнай традыцыі зьехаліся ў Сан-Крыстобаль на сьвята. Усе жанчыны былі апранутыя паводле апошняга рытму сапатысцкай моды ў чорнае жалобнае адзеньне й тэрарысцкія маскі. Па дарозе на гарадзкія сьвяткаваньні некалькі тысячаў жанчын зь дзецьмі захапілі дзяржаўную радыёстанцыю. Напрацягу гэтага часу кожная паводле традыцыі паплакала ў эфіры аб сваёй нялёгкай горнай долі і смачна выругалася на ўсю краіну. Праз 40 хвілін ганарлівыя жанчыны пакінулі радыёстанцыю дзяржаве.
У больш кансэрватыўнай Канадзе монрэальскія фэміністкі пабеснаваліся яшчэ больш. У знак пратэсту супраць патрыярхату жанчыны, чырванеючы ад сораму, увайшлі ў царкву і сталі надзяваць прэзэрватывы на скульптуры, выявы біблейскіх пэрсанажаў, сьвятых і... на фотаздымак Папы Рымскага (на стрыжань каталіцкай царквы!). Пасьля выхаду з царквы вызваленых жанчын сустрэў паліцэйскі спэцназ, які мужна пачаў зьбіваць непаслухмяных. У выніку паліцэйскаму гвалту падпалі і мужчыны, якія ня ўдзельнічалі ў аздабленьні царквы.
Расейскія жанчыны не ўпусьцілі шанцу ў гэты сьвяточны дзень павіншаваць выканаўцу абавязкаў Першага мужчыны. 11 тысячаў жанчын, якія перажылі сэксуальны гвалт, паслалі паштоўкі «Віншуем з 8 Сакавіка!» прэзыдэнту. На адвароце быў памешчаны наступны тэкст: «Паважаны в.а. першага мужчыны! Кожную гадзіну адна з расейскіх жанчын гіне ад рук свайго мужа альбо партнэра. У дзень 8 Сакавіка я хачу аддаць даніну памяці ўсім загінуўшым жанчынам. Патрабую адмовіцца ад сьвяткаваньня Міжнароднага жаночага дню і ператварыць яго ў шэрыя будні. Гэтым мы выратуем ад п'янага сьвяточнага гвалту хаця б частку жанчын».

# Ты кінула!

## Споведзь распаўсюдніка газэты *Наша Слабада*, якую ўцягнулі ў брудную гульню й разьвялі на бабкі

Наша Слабада

Усе жадаюць грошаў. Я і мае сябры таксама, аднак сур'ёзна ўкалываць нас ламае. А вось на халяву мы западаем. Калі ў чарговы раз хацелася падняцца на грошы, мы нарваліся на аднаго знаёмага хмыра, які тыпу як бы мог нам дапамагчы. Гэты злыдзень прывёў нас на нейкую канспіратыўную хату, дзе пасадзіў на канапу і стаў шчыра гнаць на нейкую сьветлую ідэю і пра месца студэнцтва ў дэмакратычнай рэвалюцыі. Праз дзьве гадзіны прагрузу гэтая жывёла нарэшце выдала: трэба раздаваць газэты. Нас запісалі ў нейкі сшытак, і мы адправіліся да хаты.
У суботу вечарам я была ўжо цьвярозай. У дзьверы пазванілі. Я мужна пайшла адчыняць. Карацей, стаіць мужык. Першая мая думка: не, гэта ня мой ідэал мужчыны – на тачцы зь мяхом баксаў, каб зьвесьці мяне на Канары. Другая мысьля – прыйшлі «неместные» клянчыць цёплае адзеньне або зьбіраць подпісы на выбары. На хвілінку мне здалося, што гэтая асоба зь цяжкай сэкс-паталёгіяй. Ідэнтыфікацыя скончылася асэнізатарам.
Тут ён як ляпне: «Вы, Таня?» Я амаль па сьцяне (мяне Таняй завуць). Гэты кажа: «Газэты прывезьлі». «Мля, якія на х.. газэты», – падумала я, аднак спытала культурна, бяз матаў: – «Якія на х..рэн газэты!» Мужык зьбянтэжана гэтак: «Ну, гэта газэта *Наша Слабада*». Я як клёвая цёлка ўсё прасекла. Ён усё выгрузіў (4 пачкі) і здаўлена прашаптаў, што раздаць іх трэба як мага хутчэй на ст.м. «Х».
У нядзелю раніцай я сяджу і, доўга натрачваючы тэлефон, званю братве. Усе доўга ламаюцца, гніла адмазваюцца. Ну, ладна. Нарэшце мы неяк сабраліся і вырулілі на раздачу. Першую пачку ў мусарны кантэйнэр. Наступную вырашылі піхнуць.
Радасна, адчыняючы зубы насустрач вясноваму сонейку, мы сувалі макулатуру людзям. Яны нам позіркам: «Чё?» У адказ мы вачыма: «Так, праграма там ёсьць». Хутка на халяўную паперу сьцягнулася стайка бамжоў. Ззаду стаяла «крыша» – двухмэтровы жлоб, які ў выпадку чаго мусіў абараніць. Але той аказаўся поўным лахом.
Мякка ступаючы па асфальту пяшчотнымі падушачкамі ботаў, да мяне непрыкметна наблізіліся мянты. «Чё, раздаём?» – сказаў малады, стомлены і азьвярэлы ад першага сонца мент. «Газэта-та антыпрэзыдэнцкая. Нізя раздаваць гэту нелегальшчыну. Хто заслаў? Хто прывёз? Нафіг трэба!» «Ня ведаю, ня памятаю, грошаў хачу я», – разгубіўшыся, я ненавісна зірнула на «крышу». «Дакумэнты! На каго працуеш?» «Я ня ведаю, не разумею, грошаў я хачу». «Пройдзем. Ты адна?» «М-да. Я, гэта, тыпа болей ня буду». «Добра, ты раздавай гэта г..но лепш на ст.м. «Перамогі». Гэта ня наш раён. А калі тут пабачу – п..ц. Газэты аддай».
Я вельмі ўзрадавалася й сунула яму яшчэ цэлую нераспакаваную пачку. «Да пабачэньня». Усё абыйшлося. «Крышы» мы добра ўставілі. Плаваем у бабках ●

**Тацяна Юрына**

МЯНТЫ
Убойная сіла
Дарагія таварышы! Давайце вып'ем...
Хлоп!
Стоп, я ня поал! П'ем за «Алмаз»
Што за шум а дракі нет? Дакументы!
Граблі прыбяры!
Я табе, мянцяра, пакажу, што такое «Алмаз»!
Сука!
Атрымай, здрайца айчыны!
Во уліп...

# Шкодныя парады



*К*алі ўсёй сям'ёй адразу
Вы пайшлі на «Марш свабоды»,
Падбухторывайце родных
На кіданьне камянёў.
Потым здайце іх АМАПам –
Хай бацькі адпачываюць
За дзяржаўны кошт у РАЎСу.
Вы ж паціху заклікайце
Да сябе сваіх сяброў
І рабіце вечарынкі:
Можна добра адцягнуцца
Без бацькоў 15 дзён.
Хто ня кінуў камянюку
Ў шчыльны шэраг міліцэйскі,
Той ня будзе ганарыцца
Тым, што адмарозак ён.
І ніколі ўжо ня ўбачыць
Ён сябе ў «Панараме»,
Не хадзіць яму ў гіпсе
І ня будзе ён хваліцца
Ў размове зь сябрукамі
Праламанай галавой.
Няма больш прыемнай справы,
Чым мятнуць батлом з бэнзынам
У мянтоўскую машыну.
Хіба бачыць не цікава,
Як гарыць міліцыянт?
Хіба ведаць не цікава,
Што ў яго ўнутры схавана?
А каму глядзець агідна,
Той няхай і не глядзіць!
А калі мянты схапілі
Вас за гэтай добрай справай,
Папулярна растлумачце:
Гэта быў экспэрымэнт.
Не крыўдуйце на таго, хто
Лупіць вас дубінкай храбра.
Не лянуйцеся аддзячыць
У канцы яго за тое,
Што дубінкай вас ён лупіць –
Мог бы ўзяць з сабой сякеру
Ці яшчэ бэнзапілу.
Калі згубісься ў натоўпе
І падчас «Маршу свабоды»
Трапіш у кіпцюры АМАПу,
Ні за што мянтам свой адрас
Не кажы – цябе адразу
Аддадуць матулі з татам,
Каб ты болей не гарэзіў.
Трэба ўсё рабіць разумней
І казаць міліцыянтам:
«Я чачэнскі тэрарыст!
У мяне ў кішэні бомбы,
Бо хачу ўзарваць МакДональдс
і Рэспублікі палац!»
Тут цябе адразу кінуць
У канцэнтрацыйны лягер
Разам з бандай адмарозкаў,
Каб затым адфільтраваць.
Будзеш час вясёла бавіць
У цікавым асяродзьдзі.
Ні аб чым не размаўляйце
Зь незнаёмым дзядзькам-сьледчым,
Маці будзе хваляваецца,
Можа ён дурны маньяк.
Лепей зьешце ўсе паперы,
Справы ўсе і пратаколы,
Што ў яго ёсьць на стале.
І маўчыце потым мужна,
Быццам той Марат Казей.
Можа Вам вялікі ордэн
З Польшчы факсам перашлюць,
І праз колькі год у Ваш гонар
Недзе школу назавуць.
У судзе сябе паводзіць
Трэба ветліва і годна:
Ногі вытры пры ўваходзе
Аб дзяржаўны сьцяг на сьценцы,
Можна нават пасмаркацца
Прама ў мантыю судзьдзі.
На працэсе трэба квакаць,
Корчыць рожы і крыўляцца
Ці сьпяваць там гучна песьні:
Судзьдзі любяць сьмех і радасьць,
Самі любяць пасьмяяцца
І асудзяць па прыколу:
Вас на сутак так 15
На Акрэсьціна здадуць.

**Георгі Тупер**

# Дакажы, што вярблюд

## Гарадзенскімі органамі выкрытая злачынная група кантрабандыстаў сьпіртам

**У**жо чаго толькі ня бачылі беларускія мытнікі на сваім вяку, але такога грандыёзнага фінту крымінальнага сьвету не чакаў ніхто. З дапамогай супрацоўніка Гарадзенскага заапарку органам удалося раскрыць банду кантрабандыстаў сьпіртам.

Нагадаем, што два месяцы таму, на пагранічным пераходзе Брузгі, які побач з Гародняй, пагранічнікі затрымалі тры вярблюды, якія небыта йшлі на зімоўку з тэрыторыі Беларусі ў бок Польшчы. Праход жывёлы удаўся б, калі б не сяржант Жывулеўскі, які здагадаўся, што вярблюды ў Беларусі ня водзяцца. Да таго ж вярблюды перасоўваліся паўзком. Нязвыклы караван быў затрыманы і неўзабаве перададзены ў Гарадзенскі заапарк.

Мясцовы заатэхнік Казімір адразу падмеціў такую дэталь. Вярблюды-навічкі харкалі занадта жыдзенька ў параўнаньні зь мясцовымі старажыламі. «Пэўна, парода такая», – падумаў быў стары. Аднак на ўсялякі выпадак зьвярнуўся да вэтэрынара. Той параіў павялічыць рацыён калючак, якія заапарк набывае за валюту ў Туркмэністану. Але калючкі, ласунак для кожнага вярблюду, тыя й блізка ня елі. Затое з задавальненьнем хапалі цукеркі й бананы, якія прыносілі ім наведнікі, асабліва налягаючы на бульбу й сала. Далей болей. Вярблюды неадэкватна рэагавалі на жанчын, застаючыся абсалютна абыякавымі да вярблюдзіц. Але абсалютна неверагоднае адбылося на мінулым тыдні, якое й праліла сьвет на гэтую гісторыю.

Як вядома, у вярблюдаў у сакавіку надыходзіць пэрыяд вясновай вязкі. І вось, калі вярблюд-гарадзенец наскочыў на прышлую самку, тая ўзмалілася чалавечым голасам: «Хопіць зьдзеку! Запішыце чыстасардэчнае прызнаньне!» Казімір хацеў быў загадаць тры жаданьні, аднак, ня доўга думаючы, узяў вілы й распароў бруха дзіўнай жывёліне. Пад скурай вярблюда-балбатуна хаваліся: 4 мужыкі! У запале дэтэктыўнага азарту стары заатэхнік перарэзаў усіх вярблюдаў. Праверка паказала наступнае: 12 кантрабандыстаў, прыкінуўшыся пад экзатычных жывёлаў, намагаліся перавесьці за кардон 120 літраў сьпірту, які яны хавалі ў вярблюжых гарбах. Ісьцінных вярблюдаў удалося выратаваць на радасьць дзяцішкам хуткай вэтэрынарнай дапамозе, якая неадкладна прыбыла на месца здарэньня.



Зь першага погляду сапраўды цяжка адрозьніць кантрабандыста ад карабля пустыні.

Цяпер, каб перасекчы мяжу буйным рагатым, гарбатым або хабатым жывёлам, ім трэба прайсьці адмысловую працэдуру – «Казімірава сячэньне»●

**З.Р.Нямы**

# П'янству – бой!

## *Невядомы папарацы «накрыў» Лявона Баршчэўскага за непрыглядным заняткам*



**«К**уды падзеўся Лявон Баршчэўскі? Чаму зубар Адраджэньня адыйшоў ад справаў у БНФ?» Такімі лістамі ад чытачоў літаральна кішыць наша пошта. Чытач пытаецца – мы мусім даць адказ. Направіўшыся ў Беларускі ліцэй Праведзенае журналісцкае расьсьледаваньне дала плачэўныя вынікі.

У Баршчэўскага асцынэнтны крызыс. Справа ў тым, што ён захапіўся нацыянальнымі відамі самагонаварэньня. Ды так сур'ёзна, што кінуў сваю асноўную працу ў БНФ. Чакаецца, што Баршчэўскі дап'ецца да бел-чырвона-белых каней – і тады пераможа нацыянальная рэвалюцыя. Рэдакцыя мяркуе, што алькаголь шкодзіць здароўю ня толькі Лявона Баршчэўскага.●

# Марш Свабоды'1905?

***Беларуская грамадзкасьць дасюль горача дыскутуе пытаньне, ці дасылаюць апяроў у шэрагі дэманстрантаў, каб справакаваць бойку, ці не. У якасьці сьведкі выклікаецца непадкупная кліо-гісторыя. Прапануем артыкул з часопісу Волшебный фонарь часоў рэвалюцыі 1905-1907гг. (Стыль і арфаграфія арыгіналу захаваныя.)***

## Изъ исторіи одного вооруженнага возстанія

***В министерствѣ внутреннихъ смутъ:***

– Итакъ. Понимаете? Ваши агенты должны организовать вооруженное возстаніе! Но только маленькими группами. Мы ихъ такъ по частямъ и паразстрѣляемъ, этихъ «товарищей-пролетаріевъ». Ну, а своіхъ предупредите, чтобы всѣгда с тряпками красными на палкахъ впереди были. Войскамъ отдадимъ секретный приказъ: в знаменосцевъ не стрѣлятъ, а потихоньку ихъ живьемъ доставить, безъ всякихъ члено-вредительствъ. Такъ, что они могутъ быть спокойны. Заарестуемъ всѣхъ этихъ знаменосцевъ, разберемся тамъ, которые свои. Ну, и дадимъ возможность побѣгъ что-ли устроитъ. Тамъ видно будетъ. И жизнь, и честь их внѣ опасности. Поняли?

– Слушаюсь, Ваше высопр...

***В казармѣ:***

– Такъ что, ребята, гляди! Въ знаменосцевъ, с флагами, значитъ которые съ тряпками красными – стрѣлять а ни-ни не моги! Потому самые бунтовщики. Живьемъ ихъ мерзавцевъ взятъ и по начальству прѣдставить. Поперевѣшаютъ ихъ каналій. Понаучатъ ихъ народъ супротивъ начальства бунтовать!

***На улицѣ. Послѣ боя.***

– Сволочи! Мерзавцы! Какого чорта дернуло зачинщика, коновода ихняго пристрѣлить! Какъ я объ этомъ командиру доложу? Сознавайся, кто отличился? Выходи!

(Молоденькій бодрый солдатикъ выходитъ впередъ изъ рядовъ).

–Такъ, Ваше бродіе, ужъ очень у него морда противная! Не выдержалъ, ну и уложилъ●

**Н. Ад-нъ**

## *РэфлЕксія*

### На сьмерць...

У імпэрыі Саветаў народ у дабраахвотна-прымусовым парадку пачкамі выходзіў на санкцыянаваныя ўладамі мітынгі й дэманстрацыі. Стваралася шырокамаштабная ілюзія ўдзелу народу ў палітычным жыцьці краіны, дачыненьня да ўсяго, што адбывалася ў сьвеце. Умоўны селянін з умоўным прозьвішчам Пятроў скандаваў: «Кукуруза – царыца палёў!», і ўяўлялася, што гэткім чынам ён кранае важнейшыя рычагі кіраваньня аграпрамысловым комплексам краіны. Умоўны рабочы з умоўным прозьвішчам Іваноў напружваньнем галасавых зьвязак паскараў тэмпы росту валавага нацыянальнага прадукту. Умоўны інтэлігент з умоўным прозьвішчам Сідараў, трасучы чырвоным сьцяжком, вызначаў прыярытэтныя накірункі культурнай рэвалюцыі й навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Паветранымі шарыкамі й сьцяжкамі й палымянымі прамовамі савецкі народ змагаўся супраць сусьветнага імпэрыялізму, супрацьстаяў голаду ў Эфіопіі й вынішчэньню тушканчыкаў у джунглях Кампучыі. Набліжалася сусьветная пралетарская рэвалюцыя й сацыялістычная перабудова... А галодныя дзеці Эфіопіі даядаюць апошняга кампучыйскага тушканчыка.

# Рэальны кандыдат

## Скуратаў – адзіны прэтэндэнт на пост начальніка Расеі



«Ну, за Скуратава, вядома!» «Хе, да Скуратаў – нармалёвы мужык!» – прыкладна такія размовы можна зараз пачуць у магазінных чэргах амаль у любым расейскім мястэчку. Маскоўскія прастытуткі і прафсаюз лазеншчыкаў робяць дэманстрацыі ў падтрымку экс-пракурора. Ягоны рэйтынг складае рэальную канкурэнцыю рэйтынгу Пуціна. А паказчыкі Яўлінскага, Лужкова ды іншых вядомых расейскіх палітыкаў і побач не стаялі са Скуратавым. Незалежныя аналітыкі прагназуюць падтрымку электаратам прыкладна на ўзроўні 30-35%. У чым жа прычына такога імклівага росту папулярнасьці апальнага экс-генпракурора?

Яго травяць усе вядучыя расейскія тэлеканалы, у Скуратава амаль не бяруць інтэрвію, кандыдатам у прэзыдэнты яго зарэгістравалі ў ліку апошніх. І ўсё гэта на фоне знакамітага скандалу з гіпэрсэксуальнымі паводзінамі нашага героя. І ніхто не здагадваецца, што ўся гэта кампанія па заліўцы Скуратава брудам – ні што іншае, як вельмі добра зроблены і падрыхтаваны «чорны пі-ар», яшчэ больш чарнейшы, чым пуцінская чачэнская кампанія.

Што за модная фенька «чорны пі-ар», паспрабуем разабрацца. Па-першае, папулярнасьць таго ці іншага палітыка прама залежыць ад таго, як часта скланяюць ягонае імя ў сродках масавай інфармацыі. Ягоны сэкс-скандал надоўга забясьпечыў яму бясплатную эфірную прастору на доўгі час (прыгадайце вашынгтонскага шалуна). Па-другое, трэба ведаць расейскі электарат, сердабольны й міласэрны да пакрыўджаных (успомніце Ельцына ў мяшку ў1987 годзе). Самае ж галоўнае ва ўсёй гэтай гісторыі - добрае веданьне Фрэйдысцкай тэорыі сэксуальнай матывацыі.

Можна смела разьлічваць, што сярод тых, хто апусьціць 26 сакавіка свой бюлетэнь у выбарчую вурну з крыжыкам насупраць прозьвішча «Скуратаў» 90% будуць мужчыны. Якая прагма-пазыцыя рухае кожным чалавекам па жыцьці? Сэксуальная смага й жаданьне стаць вялікім. І кожны расейскі мужчына супастаўляе сваю жыцьцёвую прагма-пазыцыю з вобразам Юрыя Скуратава, ягоным ладам жыцьця. Калі адзін з галоўных расейскіх дзяржчыноўнікаў дазваляе сабе некатарыя, так бы мовіць, вольнасьці, то той просты расейскі мужык, які ня можа дазволіць сабе нешта, акрамя сваёй жонкі, употайку зайздросьціць яму белай зайздрасьцю, і прагаласуе менавіта за яго ў знак мужчынскай салідарнасьці. Да таго ж у сярэднестатыстычнага расейскага мужчыны генэтычна закладзеная непарыўная асацыяцыя з магчымасьцямі сэксуальнымі й магчымасьцю кіраваць краінай.

Калі Скуратаў выйдзе ў другі тур выбараў (што цалкам верагодна), то Пуціну будзе вельмі цяжка і прыйдзецца лезьці ў рукаў па нейкі новы «пі-араўскі» козыр, кшталту арышту Басаева ў дзень галасаваньня. Аднак некаторыя пі-ар-мэйкеры раяць Пуціну падумаць пра які-небудзь сэксуальны скандал, і ня проста скандал, а цэлую оргію, з элемэнтамі садызму й пэдафіліі. Гэта будзе надзейным джокерам супраць скуратаўскага казырнага туза. ●

**Юрык Галёнаў**

## Чорны Пі-Ар



Кандыдат Ү запэцкаўся кантактамі з крыважэрнымі чачэнскімі амбрэкамі



Кандыдат Ү быў правай рукой Ельцына падчас прыхватызацыі



Кандыдат Ү тайна наведвае сінагогу саентолягаў



Скуратаў – манашка-пурытанка ў параўнаньні з кандыдатам Ү



Страшна далёкі кандыдат Ү ад народу (віно, казіно і бабы)

## *СалідАрнасьць*

### Магільшчыкі «за»!

Прыкмета сёньняшніх выбараў у тым, што расейскі электарат нарэшце вызваліўся ад знойных чараў палітыкаў-папулістаў, якія жанглююць салодкімі фразамі і абяцаюць залатыя горы. Цяпер выбаршчыка на фуфле не правядзеш: ён прэцца выключна ад тых кандыдатаў, якія лабіруюць ягоныя кроўныя клясавыя фенькі. Гэтак, карпаратыўнай прэрагатывай жрыцаў каханьня стала падтрымка Скуратава – вядомага сваімі плэйбойскімі прыгодамі з путанамі.

Пад уплывам актывізаваліся й іншыя сацыяльныя саслоўі. Акурат на наступны дзень пасьля вылазкі вампаў па Цьвярской-Ямской пракацілася бурная маніфэстацыя сталічных магільшчыкаў у падтрымку Пуціна. Працэсія праходзіла пад банэрам «Пуцін – кармілец!» і скончылася грандыёзным мітынгам на плошчы Пушкіна. Рэзалюцыя, прынятая ўдзельнікамі акцыі лякавічная й красамоўная: будучае магільнай галіны, якая зараз перажывае бум, – у руках ельцынскага пераемніка.




Такімі ўлёткамі заклееныя падвалы расейскай сталіцы.

## *Увага: сантэхнік!*

На пярэдадні выбараў Прэзыдэнта РФ пачалася другая фаза антытэрарыстычнай кампаніі, якая мусіць пакласьці канец праявам агрэсіўнасьці з боку антысацыяльных элемэнтаў. Зноў у расейскай сталіцы ўведзены спэцыяльны стан. На гэты раз акрамя асобаў каўкаскай нацыянальнасьці пэрсонамі нон-грата абвешчаныя... водаправодчыкі. Калі гэта можа выклікаць у Вас сьмех – Вы альбо саплівы інтэлігенцішка, альбо ядроны вахабіт. Справа ў тымЁ што водаправодчыкі – адзіная сацыяльная група, якая мае доступ у падвалы і цеплавузлы. Усякаму расейскаму падлетку вядома, што калі хочаш рвануць школу ці дом настаўніцы, - лепшага месца як падвал для ўзрыўчаткі не знайсьці.

У сувязі з гэтым прынятыя новыя правілы прыёму на працу работнікаў сантэхнічных спэцыяльнасьцяў.

Пры прыёме на працу ўсе кандыдаты праходзяць праверку наконт падазроных кантактаў, як тое: сваякі за мяжой, у «зоне», і г.д.. Акрамя таго, за раскрыцьцё службовых тайнаў (месцазнаходжаньне труб з гарачай вадой) увесь калектыў, на яўчастку якога адбылося ЧП, караецца пераводам на асэнізатарскія працы.

ФСБ рэкамэндуе не адчыняць невядомым водаправодчыкам, службе газу або сантэхнікам дзьверы кватэр, а таксама паведамляць пра несанкцыянаванае пранікненьне гэтых асобаў у цеплавузлы сваіх дамоў ●



# Муміфікатары беларускай культуры

«Берасьцейскі гарвыканкам забараніў правядзеньне фэстывалю «Дзень муміфікатара», які ладзіўся Новым фронтам Мастацтваў і меў адбыцца 5-6 сакавіка ў гарадзкім клюбе «Вулькан». Спачатку намагаліся правесьці пэрфоманс прама на плошчы каля ДК, потым у лесе, аднак...» Можна не працягваць, далей ідзе стандартны набор гонаў на антынародны рэжым, глухі да культурных патрэбаў грамадзянаў. Навіна пра забарону «муміфікатара», амаль тыдзень была ў фокусе незалежных мэдыя. *Наша Ніва, БДГ* і інш. наперабой распрагаліся пра місіі сталічных дзеячоў мастацтва, якія мусілі падняць культурны узровень абарыгенаў на нявіданыя вышыні. На самой справе, адпаведна дэкрэту «Аб эротыцы й парнаграфіі Рэспублікі Беларусь», мясцовыя ўлады своечасова прадухілілі спробу антынароднай вылазкі сталічных дэкадэнтаў, інспіраванай заходнімі разьвед-цэнтрамі. Каб ня быць галаслоўнымі, прапануем Вашай увазе копію заяўкі ў Фонд Сораса на правядзеньне згаданага «мерапрыемства». Як бачыце, усё адбылося, як і задумвалі арганізатары.

***Application form***
to: у фонд Жоры Сораса
from: ад Сіна Вішнева
Назва праекту: Распуста ў крэпасьці-героі Берасьце пад кодавай назвай «Дзень муміфікатара».
Выканаўцы: паэты Сін Вішнеў і Барыс Бахарэвіч. Паяц зь імем, унучаты правіюр Адама Міцкевіча, які адмовіўся назваць сваё імя.

***Мэта праекту:***
Інтэграцыя Берасьцейскай вобласьці ў NATO, прыняцьце Сіна Вішнева ў Саюз пісьменьнікаў, стварэньне афшорнай зоны і перадача пушчы на 99 гадоў у канцэсію карпарацыі «Нарыльскі Нікель».

***Рэсурсы:***
Гарэлка «Мазырская» – 234 фланца
Запівон (піва «Казіно») – 345 батлаў
Закуска – батон, паўбатона ікры
Каўбаса – 2 палкі
Вынік: $ 23, 987

***Апісаньне дзейнасьці:***
Скаардынаваць сталічных рок-лабухаў і самазваных паэтаў на вылазку ў крэпасьць-герой Берасьце пад выглядам культурнай місіі «Дзень муміфікатара». У запламбіраваным вагоне другой клясы кантаваць у абласны цэнтар Берасьце партыю псэўда-паэтаў і квазі-музыкантаў. Па прыбыцьці шантажаваць гарадзкую вэртыкаль правядзеньнем лекцыі «Капрафагія і беларускі касьцюм». Сьцягнуць на сябе ўвагу мясцовых сілавых структураў КГБ і МУС і такім чынам значна падвысіць крымінагенную сытуацыю ў рэгіёне. У натоўпе каля ДК, дзе плянавалася правесьці імпрэзу, распусьціць чуткі, быццам пэрфоманс пераносіцца ў лесапаркавую зону і справакаваць грамадзянаў на несанкцыянаванае шэсьце загарад. Пакуль масы будуць блукаць па лесе ў пошуках пэрформансу і паліць вогнішчы, падаючы сыгналы закардон і правакуючы жывёльны сьвет эміграваць за Буг, ударная група культурнага дэсанту сустракаецца з патэнцыйнай агентурай Захаду - неакрэплымі умамі і незабруджанымі мазгамі: сатаністам Ярыкам і мэталістам Павуком. Падарваць давер да непарушных пазытыўных каштоўнасьцяў – эстрадным рамантыкам CANNIBAL CORPS, BURZUM I IMMORTAL і інш. Шляхам агітацыі і мэтанакіраванай п'янкі давесьці адносіны валасароў да антынароднага прэзыдэнцкага рэжыму да стану блявоціны. Пакінуўшы іх у каматозным стане духу і сьветапогляду, несанкцыянавана рухацца па шашы, сьпяваючы брудныя куплеты пра каханьне. Арганізавана пагрузіць у вагоны дровы (Сіна Вішнева, караля буфанады Мінскевіча, Сонкіна, Банкера і папарацы Палойкера). Раніцай прыбыцьцё ў Менск

**Сін Вішнеў**

Угледзьцеся ў гэтыя «інтэлектуальныя» твары сталічнага культурнага бомонду. Хіба могуць яны несьці культуру ў масы?

## Сьвецкая кроніка

# «Любіць-ня любіць...»

### Бурэ клеіцца

Сусьветна вядомы сябра Япончыка і брат усім пэдэрастам, адзін з самых высокааплочваемых хакеістаў Павал Бурэ аб'явіў аб сваіх заручынах з расейскай тэнісісткай Ганнай Курнікавай, ракетка якой займае дзясятае месца ў сусьветных рэйтынгах. Паклоньніцы ўціраюць соплі, а газэты трубяць аб шчасьлівым і ўдалым шлюбным саюзе. Але не зразумела, навошта такому багатаму, прыгожаму й сэксапільнаму Бурэ жаніцца на такой лахудры як Курнікава? Прычына бачыцца толькі ў адным. Калісь, колькі месяцаў таму, ва ўсіх таблойдах былі надрукаваныя пікантныя фоткі брутальнага сэксу Пашы з... вядомым гомікам Ванкувэру Элтанам Джонам. Адвакаты Бурэ забілі трывогу, хваляй хлынулі інтэрвію па TV, радыё, у газэтах, часопісах, дзе «пакрыўджаны» Бурэ сьцьвярджае, што фоткі – гэта танная падробка, хтось проста вырашыў сапсаваць ягоную рэпутацыю, і ў доказ заявіў аб тым, што хутка зьбіраецца браць шлюб з Курнікавай, якая, як вядома, зьяўляецца жанчынай. Насамрэч апошні факт фактам у прынцыпе не зьяўляецца, бо ўсяму тэніснаму сьвету вядомыя любоўныя ўцехі малалеткі Курнікавай з мацёрай лесбіянкай Штэфі Графт. Таму ня ведаю, каму што такім чынам спрабаваў даказаць Бурэ, але атрымалася ўсё наадварот. Даказваючы сваю «правільную» арыентацыю, Бурэ ў чарговы раз даказаў, што без пэдэрастыі Вялікаму спорту ня быць.



Гэта, па ціпу, Курнікава. Тая, што з Бурэ круціць

### Зэмфіра засталася ў дзеўках

Сапраўднай сэнсацыяй ў жыцьці расейскага шоў-бізнэсу стала растаржэньне заручынаў вядомай сьпявачкі і сумнеўнай прыгажуні Зэмфіры са сваім жаніхом, лідэрам гурта ТАНЦЫ МИНУС Славам Петкуном. Зьвестка пра хуткі шлюб Зэмфіры не давала спаць спакойна агромністай арміі фанатаў: два 14-гадовыя хлопцы і адзін 78-гадовы пэнсіянэр скончылі жыцьцё самагубствам пасьля таго, як убачылі фота сьпявачкі ў вясельным убраньні побач з патэнцыйным мужам. Пытаньне, чаму Зэмфіра не дала Славе, стаіць у прэсе рубам. Існуе некалькі вэрсіяў: у Славы – СНІД; Зэмфіра – лесбіянка і ня хоча Славу; Зэмфіра ня можа пайсьці за Славу, бо ў Расеі забароненыя аднаполыя шлюбы: Зэмфіра – не Зэмфіра, а вядомы сьпявак Ільля Лагуценка; Слава – зусім не патэнцыйны муж, а, прасьцей кажучы, імпатэнт; Зэмфіра – бісэксуалка,бо сьпіць з Ільлём Лагуценкам, які, зьяўляючыся бясполым, можа быць адначасова і мужчынам, і жанчынай; Зэмфіра выходзіць замуж за сэкс-сымбаль беларускага року – Лявона В.

**Марта Сакавіцкая**

## COOL-HORROR




Газэты ўжо пісалі пра брутальны выпадак, калі на глебе захапленьня Куртам Кабэйнам і NIRVANA дзяўчынкі забілі сваю сяброўку. Але гэта былі толькі кветачкі.
Звычайная школа, звычайная кляса, звычайныя сяброўкі, звычайныя музычныя густы – гранж...
(Над коміксам працавалі: Дзеткі, Мітрыч, Лёлік, Банкер і Палойкер)




Аднойчы ў брудным пад'езьдзе DJ Міця фарцаваў касэтамі, самагонкай і наркатой
















Праслухаўшы ўвесь дыск, маладзёж проста прыбалдзела

# комікс

KRUTOY WORKER

А-А-А-А

РАБОЧЬ

Я чую плач працоўнага люду!

Жылы цягнуць!

А што ж гэта робіцца, га?

Як жыць далей?

КРЫ 40%

700р. 900р.

Дапамажы нам, круты Ўоркер. На цябе ўся надзея

Эй, крывасмок, чаму спажывецкая карзіна пустая

Не твая справа, быдла! Ідзі да станку!

Гэтыя словы Круты Ўоркер ужо чуў калісьці. Шлейф успамінаў нахлынуў на яго.

На працу ў Нямеччыну, быдла!

Атрымай, фашысьцюга!

Эй, земляк, ты не праў. Ведаеш, што такое сацыяльнае партнэрства

АААААААААА!

Давай па мірнаму. Дай краба!

Мы ж за калектыўныя дамовы.

ЧЫК

Папаўся!

Як у палон

Тут прыгадаўся Афтанскі палон

Ну, што, земель, папаўся

Вочы Ўоркера наліліся крывёй

Дык я не паняў!

Атрымай у бесталкоўку!

BANG

АТРЫМАЙ!

А я цябе — як Тузік шапку!

Не падыходзь! Я парву працоўны кантракт

Кабінэт па цэнах

ААААА

Не чапай рабочы клас! Бубен адаб'ем!




